Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

16 красавіка 2004 года

№ 16 (467)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года




Тэлетыдзень
Поўныя праграмы «Расія» і «НТВ»

## Навіны рэгіёну

### Адкрыўся цэнтр

**СМАРГОНЬ.** Цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі для дзяцей з псіхафізічнымі асаблівасцямі адкрыўся ў райцэнтры. У такой дапамозе маюць патрэбу каля 1000 дзяцей.

Ірына РАБУШКА.

### «Прыму» затрымалі

**АСТРАВЕЦ.** Грузавік "Фіат", у кузаве якога знаходзіўся тайнік, затрымалі супрацоўнікі міліцыі каля вёскі Шумелішкі. Астраўчанін не давёз з Расіі ў Літву 18500 пачак цыгарэт "Прыма" расійскай вытворчасці. Увесь тавар быў без акцызных марак.

Сяргей ЗЯНЬКО.

### Гастролі аднаго дня

**АШМЯНЫ.** Аднадзеннеўныя гастролі Слонімскага драматычнага тэатра прайшлі 15 красавіка ў гарадскім Доме культуры. Дзеці пагледзелі спектакль "Хачу быць чараўніцай".

Сяргей ЗЯНЬКО.

### Сустрэча і канцэрт

**ВІЛЕЙКА.** У нядзелю горад наведае намеснік міністра ўнутраных спраў **Віктар Філістовіч.** У Палацы культуры пройдзе сустрэча намесніка міністра з ветэранамі вайны і працы, а таксама канцэрт узорна-паказальнага аркестра песні і танца МУС.

Марына СЛІЖ.

### Скідкі ветэранам

**ВАЛОЖЫН.** На 50 працэнтаў дзешавей будуць плаціць ветэраны Вялікай Айчыннай вайны пры праходжанні абавязковага тэхагляду і правядзенні дыягностыкі ўласных аўтамашын. Такое рашэнне прыняў калектыў аўтапарка.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Пра нацпарк

**МЯДЗЕЛ.** На выставе «Турызм і адпачынак у Беларусі», што пройдзе ў Мінску, нацпарк «Нарачанскі» азнаёміць з паслугамі парку, умовамі адпачынку, паляванне і рыбалоўства на яго тэрыторыі.

Святлана ЦІШКО.

### Настаўнік года

**МАЛАДЗЕЧНА.** Сёння, 16 красавіка, падводзяцца вынікі абласнога конкурсу «Настаўнік года», што праходзіць на базе школ горада. Гонар маладзечанцаў абараняе настаўніца рускай мовы і літаратуры СШ №8 **Юлія Козырава.**

Святлана ЦІШКО.

### Перанесены дзень

Саўмін перанёс рабочы дзень з панядзелка, 19 красавіка, на суботу, 17 красавіка. Тры дні запар — 18, 19 і 20 красавіка — будуць выхаднымі.

# Гуляй, гімназіст!



Дзяцей – вучняў гімназіі №2 Вілейкі – пасля званка невядомых да дырэктара гімназіі вывелі на гімназічны стадыён. Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

## Нядоўга ў аўторак шукала міліцыя аўтараў званка аб замініраванні гімназіі №2 Вілейкі. Імі аказаліся вучні 2-га і 3-га класаў

**ВІЛЕЙКА. Тры працяглыя званкі – сігналы трывогі – спынілі 13 красавіка заняткі ў гімназіі № 2. На гэты раз трывога была не вучэбная. Невядомы патэлефанаваў дырэктару гімназіі і паведаміў, што будынак замініраваны. Аператыўныя дзеянні міліцыі паказалі, што зламыснікамі былі тры вучні пачатковых класаў гімназіі № 2. Цяпер іхнія бацькі панясуць пакаранне ў выглядзе штрафаў, памер якіх вызначыць суд.**

Пасля абвяшчэння трывогі калектыў школы быў тэрмінова эвакуяваны. Праз лічаныя хвіліны ўсе згрупаваліся па класах на школьным стадыёне.

Ужо праз паўгадзіны пасля эвакуацыі стала зразумела, што пагроза не мае пад сабой глебы. Вучням Эдуарду Басакоўскаму, Дзіму і Віталю Кашкелісам захацелася весялей правесці час да пачатку ўрокаў другой змены, таму вырашылі пажартаваць і па тэлефоне паведамілі пра падкладзеную "бомбу". Супрацоўнікі міліцыі выявілі іх вельмі лёгка. Паскорыла працэс тое, што тэлефоны апарат дырэктара гімназіі абсталяваны аўтаматычным вызначальнікам нумара (АВН).

Хоць небяспека і не спраўдзілася, заняткі для першай змены на гэтым скончыліся. Ні вучням, ні настаўнікам было ўжо не да ўрокаў. Таму адміністрацыя школы прыняла рашэнне заняткі не праводзіць. Усе дзеці радасна пабеглі дадому. А адзін хлопец узрушана крычаў: "Каб гэтак кожны дзень!.."

Здарэнне паказала добры ўзровень гатоўнасці ўсіх сілавых службаў, адміністрацыі і калектыву школы да падобных сітуацый. Не прыйшлося доўга чакаць прадстаўнікоў аддзела па надзвычайных сітуацыях, аддзела ўнутраных спраў, КДБ, райвыканкама, аддзела адукацыі. Эвакуацыя дзяцей была праведзена вельмі аператыўна, без панікі. Па словах начальніка раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Пятра Багдановіча**, прафілактычная праца дае плён.

Найбольшая нагрузка лягла на плечы **Андрэя Дударчыка**, намесніка начальніка РАУС па выхаваўчай рабоце і кадравым забеспячэнні. Ён кіраваў аператыўнымі дзеяннямі і прымаў канчатковае рашэнне аб неабходнасці выкліку спецыяльнага падраздзялення МУС і дазволе вярнуцца ў будынак школы.

Падобны тэлефонны тэрарызм меў месца ў Вілейцы каля 5 гадоў таму, калі "мініравалі" СШ № 3. Тады спецыяльнае падраздзяленне прыязджала аж з Мінска, а зламыснікаў-жартаўнікоў знайсці не ўдалося. Па словах дырэктара школы **Мікалая Гіро**, апошні выпадак у гімназіі № 2 перапанаваў яго абавязкова абсталяваць свой тэлефон АВН.

Віталь ПАЎЛОЎСКІ.

### Прэм'ера

Дом культуры чыгуначнікаў прадставіў поўнай зале гледачоў доўгачаканую прэм'еру і аднаасова драматургічны дэбют.



2-я старонка

### Выселілі праз суд

За неаплату камунальных паслуг і антысанітарыю выселілі праз суд жыхароў трох маладзечанскіх кватэр.



3-я старонка

### «Нічыйная» зямля?

Паміж Вілейкай і Маладзечнам на берагах Віліі з'явілася "нічыйная" тэрыторыя.



4-я старонка

## Перамог у конкурсе

**ВАЛОЖЫН. У чарговы раз лаўрэатам Усеармейскага тэлевізійнага фестывалю салдацкай песні ў намінацыі "Аўтарская песня" стаў падпалкоўнік мясцовай вайсковай часці Сяргей Макей.**

На суд журы ён вынес сваю песню "Салдацкая восень".

Наталля ШТЭЙНЕР.

## Прайшлі на рэспубліку

**ВАЛОЖЫН. У абласным конкурсе на лепшы праект краязнаўчага маршруту "Мой край" трэцяе месца заняла творчая работа ракаўскіх школьнікаў пад кіраўніцтвам настаўніцы Святланы Адамовіч.**

Яны распрацавалі маршрут па гістарычных мясцінах роднага Ракава. Праект вылучаны на рэспубліканскі этап конкурсу.

Наталля ШТЭЙНЕР.

## Стала чэмпіёнкай

**ВАЛОЖЫН. У мінулыя выхадныя дзесяцікласніца гімназіі №1 Вольга Макей, выхаванка Палачанскага аддзялення конна-спартыўнай школы, стала абсалютнай чэмпіёнкай Мінскай вобласці сярод дарослых.**

Яна выйграла адразу 2 канкуры, выканаўшы нарматыў майстра спорту.

Наталля ШТЭЙНЕР.

■ КОНКУРСЫ

## Нашчадкі славы

**Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» абвяшчае міжнародны конкурс сярод школьнікаў 12-14 гадоў «Нашчадкі змагарнай славы».**

На конкурс прымаюцца малюнкі памерам А3 (420х295) і А2 (420х590), а таксама літаратурныя творы (апавяданні, вершы, сачыненні, нарысы і іншыя), якія адлюстроўваюць падзеі і лёс гістарычных асобаў (адной або некалькіх) нашай змагарнай мінуўшчыны і прысвечаныя барацьбе беларусаў за волю і незалежнасць Бацькаўшчыны з часоў Рагвалода і Рагнеды да XX стагоддзя.

Усе працы павінны мець прозвішча, імя аўтара, яго дату нараджэння, зваротны адрас, па магчымасці кантактныя тэлефоны.

Працы на конкурс прымаюцца да 15 мая па адрасе МГА «ЗБС «Бацькаўшчына», вуліца Рэвалюцыйная, 15, Мінск, 220030. Кантактны тэлефон у Мінску (017) 289-31-94. Пераможцы атрымаюць каштоўныя падарункі.

Алена МАКОЎСКАЯ.

## Набор Елісеенкава

**МІНСК. Працягваецца набор у студыю беларускіх выканаўцаў эстраднай песні пры Дзяржаўным канцэртным аркестры Беларусі.**

За гэты час праслухоўванне прайшло больш за 100 чалавек з усёй Беларусі. Усяго плануецца адабраць каля 10 чалавек. Кіраўніком студыі прызначаны вядомы кампазітар ураджэнец Маладзечна Алег Елісеенкаў.

Паводле БелаПАН.

■ ПРЭМ'ЕРА

# «Маленькія свавольствы...»

**МАЛАДЗЕЧНА. Вечарам 13 красавіка Дом культуры чыгуначнікаў прадставіў поўнай зале гледачоў доўгачаканую прэм'еру і адначасова драматургічны дэбют актрысы Вольгі Кірэевай, удзельніцы студыі "Адлюстраванне", – "Маленькія свавольствы дарослых жанчын".**

Гэта вясёлая, смешная і адначасова тонкая і лірычная гісторыя з жыцця сучаснай жанчыны. Не без горычы ўсведамляеш, як часам бывае невыносным адзіноцтва ў вялікім свеце, дзе так цяжка знайсці родную душу. А трапяткому сэрцу жанчын так хочацца дачакацца рамантыкі, свята, кветтак... Вось і змагаюцца дзве закадычныя сяброўкі Рыта (актрыса **Наталля Занковіч**) і Люся (Вольга Кірэева) у складаных абсурдных абставінах, падбадзёрваючы адна адну. Справа даходзіць да маленькіх і лёгкіх свавольстваў ды хітрыкаў. Заўзятая аптымістка Люся сцвярджае, што трэба прыстасавацца ў гэтым цалкам "мужчынскім" свеце, а для гэтага – усе сродкі добрыя.

Легуценная Рыта наадварот упарта працягвае марыць аб сапраўдным каханні. Яна зусім не прагматычная ў адносінах да мужчын (дазваляе экс–мужу "прыбраць" да рук усю хатнюю абстаноўку і г.д.), даверліва ставіцца да прапаноў сваёй выназходлівай сяброўкі і ... у рэшце рэшт застаецца сама сабой, атрымаўшы як узнагароду – надзею ... на каханне.

П'еса між тым насычаная не толькі добрым, свежым гумарам і рэплікамі, якія сапраўды прэтэндуюць на званне ці то "крылатых" выразаў, ці то жыццёвых слоганаў. Гэта не толькі каламбуры ды жарты, гэта сапраўдная спроба спыніцца і прызадумацца: "Хто ж мы такія на самой справе? Мужчыны, жанчыны... У чым розныя, у чым аднолькавыя? І наогул, ці магчыма паразуменне?"

Спектакль добра ўспрыняўся залай ад першай, трохі абсурднай сцэны да "хэпі–энда". Гледачы ўважліва сачылі за дзеяй і бурна рэагавалі на жартаўлівыя ходы акцёраў. Дзеянне атрымалася мабільнае, звышнатуральнае, а камедыйнасць сітуацый, набліжаная да жыццёвых, вельмі захапіла гледачоў. Крыху кіча, парадыйнасці, эстраднасці, няўрымслівасці, а таксама самааддачы і плённай працы акцёрскай студыі "Адлюстраванне" – і атрымаўся новы свежы тэатральны шэдэўр.

Як заўсёды паспяховымі рашэннямі вызначаецца работа рэжысёра **Алы Канановіч**. Арыгінальнасцю трактоўкі адрозніваюцца ролі "кавалераў" – **Сяргея Зянько** (у п'есе Сяргей Канстанцінавіч) і **Валерыя Альшэўскага** (Жорык). Нестандартна–рамантычны падыход быў выкарыстаны мастачкай **Аленай Уладыйкай**.

"Маленькія свавольствы дарослых жанчын" могуць стаць нечаканым, але звышпрыемным падарункам для тых, хто зацікавіцца і прыйдзе паглядзець спектакль. І не толькі дамам, але і іх мужчынам гарантаваныя паўтары гадзіны прыўзнятага добрага вясновага настрою.

Таццяна ШЭЛЕГ.



Сцэна са спектакля "Маленькія свавольствы дарослых жанчын". Фота Андрэя КАСКІНА.

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

## Успомні род свой

У нашым доме яйкі фарбавалі двойчы. На Вялікдзень і на Радаўніцу. Прычым напярэдадні дня памерлых апускалася іх ў фарбу куды больш, чым у дзень уваскрэсення Хрыстова. "Каб усім хапіла,"— тлумачыла бабуля.

Усім – гэта яе сыну, маці, бацьку, мужу, сястры, пляменніцы, сватам. Яна шчыра верыла, што з вясеннім прабуджэннем прыроды душы памерлых таксама ажываюць і на Радаўніцу наведваюць месца пахавання свайго цела. Каб яшчэ раз сустрэцца з жывымі членамі свайго роду, паглядзець, якімі яны сталі.

Магілы да свята прыбіралі загадзя. Галоўнай у гэтым рытуале была зноў жа бабуля. Прыгорбленая, ад гэтага яшчэ больш маленькая, яна то спрытна махала венікам, то, стаўшы на калені, хутка разгладжвала на магілках свежы жоўты пясок, які мы з братам насілі з кар'ерчыка. "Не стане мяне, — прасіла яна, — хаця не абыходзьце гэтыя сем магілачак. Тут ляжаць мае браты і сёстры".

Дзеці ў іх сям'і памiралі малымі. За адну-дзве ночы згаралі ад тэмпературы. Бабуля, сама яшчэ дзяўчо, балюча перажывала іх смерці. А больш за ўсё ўспамінала Емяльянку. Хлопчыка, які ўсюды бегаў за ёй, як хвосцік. І сёння беспамылкова знаходжу яго магілачку. Яна самая большая.

Нярадка, прывёўшы ў парадак магілы, ужо ў поцемках падмяталі і выносілі мінулагодняе лісце з суседніх. "Трэба ж, — тлумачыла бабуля. — Іх ужо ніхто і ніколі не прыбярэ. Змерлі ўсе родныя, а тыя, што жывыя, далёка дзесьці, не прыязджаюць".

Сёлета споўніцца пяць гадоў, як няма сярод жывых нашай працаўніцы. Але па заведзенай ёй традыцыі гэтак жа фарбуюцца да Радаўніцы яйкі, не з меншым стараннем прыбіраюцца і упрыгожваюцца штучнымі кветкамі і букецiкамі магілы. Ніколі не выглядаюць яны так урачыста, як у гэты дзень. Ніколі не бывае на могілках так ажыўлена, як на Радаўніцу. З далёкіх і блізкіх дарог едуць сюды ў гэты дзень людзі. Моляцца, плачуць, успамінаюць блізкіх і не мінаюць выпадку выпіць за ўпакой іх душы.

Не ведаю, хто і калі завёў такую звычку ўстройваць на магілках застолле. Тым больш, што п'юць у апошні час бутэлькамі, літрамі, смачна закусваючы мясам і забываючыся, дзе яны ёсць на самой справе. Прыслухаешся да гоману падвыпіўшай кампаніі – зробіцца балюча. Пра што толькі не гавораць на святым месцы, якімі толькі словамі не кідаюцца. А весялосці колькі, шуму, гвалту.

Калі душы памерлых і сапраўды маюць магчымасць спусціцца ў гэты дзень на зямлю і папрысутнічаць на месцы, дзе пахавана іх цела, наўрад ці парадуюцца яны такой сустрэчы з блізкімі. Можа, лепш было б проста пастаяць, памаўчаць, прызваўшы святую памяць, якая злучае ў адзіную повязь розныя пакаленні – адышўшыя і цяперашнія.



Разважала Марына СЛІЖ.

■ РОДНАЯ МОВА

# Высокія парэнчы

**Колькі жывеш – столькі новага пазнаеш. І праўда, кожны дзень жыццё падносіць нам сюрпрызы. А багатая, сакавітая беларуская мова – тым больш.**

Парэнчы... Дакладна беларускае слова. Як па-роднаму гучыць, вы не знаходзіце? Гэтае слова вельмі падобнае па гучанні да беларускіх "парэчак", да апетага Коласам у "Новай зямлі" Парэчча. Аднак што ж яно значыць?

Каб адказаць на гэтае пытанне, спачатку трэба даведацца, якой часцінай мовы з'яўляецца слова. Бо яно нагадвае па сваёй форме як назоўнік множнага ліку, так і прыметнік мужчынскага роду. Дык вось, каб разабрацца, прыгадаю выпадак з жыцця.

Стаяла дзяўчынка на балконе пятага паверха. І напужаны, відаць, бацька крычаў: "Не перакуліся, Леначка!" А малое, гадкоў так 5, адказвала зверху піскливым галаском: "Дык парэнчы ж высокія!" Тут ужо ніцяжка здагадацца не толькі, якой часцінай мовы з'яўляецца слова, але і што яно азначае. Аднак каб упэўніцца ў сваёй здагадцы, я, як заўсёды, паглядзела ў тлумачальны слоўнік беларускай мовы.

Аказваецца, парэнчы – гэта тое ж самае, што і поручні, а што такое поручні, ведае, мабыць, кожны, – прут, брусок на трапах, пры дзвярах вагона і падобнае, за якія трымаюцца рукамі пры спуску, пад'ёме; апора для рук у крэсле, калясцы і г.д.

Вось і ўсё стала зразумелым. А мне зрабілася сорамна, што пяцігадовая дзяўчынка ведае родную мову лепш, чым я.



Асвету нясе Яўгенія МАНЦЭВІЧ.

■ КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Выселілі за неаплату

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыхары трох маладзечанскіх кватэр з пачатку года былі выселеныя ў судовым парадку за сістэматычную неаплату камунальных паслуг і ўтрыманне месцаў пражывання ў антысанітарным стане. Прычым у двух выпадках з трох людзей выселілі, а другога жылля ім не далі. Выселеныя жывуць цяпер у сваёй радні.**

Артуру К. 44 гады. Месяц таму па рашэнні суда ён пераехаў з 2-пакаёвай кватэры па Вялікім Гасцінцы ў добраўпарадкаваную аднапакаёўку ў маласямейным доме на вуліцы Багдана Хмяльніцкага. "Сям'і ў мяне няма, жыву адзін, — гаворыць Артур, — ну, а калі выселілі, то, напэўна, мелі права". Як будзе аплачваць сваю новую кватэру, не ведае, таму што нідзе не працуе. Апошні раз працаваў на станкабудаўнічым заводзе, і было гэта, па яго словах, у мінулым стагоддзі.

"Гэты выпадак нетыповы, — кажа намеснік дырэктара па жыллёвых пытаннях УП "Камунальнік" **Валеры Віткоўскі**, — часам высяляем без давання жылля. Напрыклад, у выпадках, калі ў чалавека ёсць радня, да якой ён можа перасяліцца, ці дом у вёсцы. Калі ж не – адсяляем у нядобраўпарадкаваныя кватэры, дзе прыбіральня на вуліцы. У бараку, што пабудаваны часам яшчэ да вайны. Але такі жыллёвы фонд амаль запоўнены, вось і даводзіцца выкарыстоўваць добраўпарадкаванае жыллё".



**Трохкватэрны дом без выгод па завулку Чарняхоўскага ў Маладзечне. У такія дамы высяляюць людзей за неаплату камунальных паслуг.**

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

Вызваленыя кватэры прапануюць людзям, якія стаяць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў. Але гэта, зразумела, не вырашае праблему, таму што чарга складае 4500 сем'яў. Ды і людзі не заўсёды з ахвотай ідуць у такія кватэры. Бо амаль усе з іх проста ў жудасным стане.

"Тэма, сапраўды, вельмі балючая", — паведаміў першы намеснік старшыні гарвыканкама **Яфім Ідэльчык**. — 6 мая 2002 года мы стварылі спецыяльную камісію для абследавання такіх кватэр. У яе ўвайшлі прадстаўнікі камунальных службаў, санстанцыі, міліцыі, гарадскога аддзела адукацыі, начальнікі домакіраўніцтваў. Збіраемся прыкладна раз у месяц. Мы не ставім мэтай выселіць чалавека з кватэры і пакінуць яго без жылля. Задача – навесці парадак у камунальнай гаспадарцы і стварыць умовы для аплаты. Важна праводзіць гэтую работу пастаянна і мэтанакіравана".

Сёння ў горадзе каля 200 сем'яў нерэгулярна аплачвае кватэру. 40 з іх не робіць гэтага "хранічна" і знаходзяцца на асобым кантролі. Для параўнання: год назад такіх сем'яў было 70. Гэта вынік работы камісіі. Але гэта не значыць, што 30 былі выселеныя. Нехта памяняў сваё жыллё на меншае, нехта знайшоў сродкі для аплаты, некаму дапамагла радня.

Неплацельшчыкаў падзяляюць на дзве катэгорыі: сем'і з нізкім узроўнем даходу і сем'і, дзе п'юць і не маюць пастаяннага месца працы. Першым яшчэ можна паспачуваць і дапамагчы. Другія ж з'яўляюцца частымі кліентамі ўчастковых міліцыянераў. І высяленне іх з займаемай плошчы – крайняя мера. На працягу года кватэра можа знаходзіцца пад наглядам. Спосабы ўздзеяння – ад прафілактычных размоў да адключэння святла альбо газу. І толькі пры наяўнасці трох пратаколаў адміністрацыйнай камісіі справа аб высяленні можа быць перададзена ў суд. Аднак размова тут ідзе пра кватэры, што знаходзяцца ў камунальнай уласнасці.

Па словах Сяргея Літвіновіча, старшыні гарадскога суда, падставай для пазбаўлення грамадзяніна жылля служыць 71-ы артыкул Жыллёвага кодэкса. Але калі кватэра прыватызаваная, ніхто не мае права яе адабраць. А з ліку "нядобранадзейных" кватэр – 50% знаходзіцца ва ўласнасці грамадзян. І ў гэтым выпадку не існуе рычагоў уздзеяння на парушальнікаў парадку. Можна толькі адключыць газ, святло, ваду ці накласці штраф, які звычайна яны ўсё роўна не аплачваюць, бо няма чым. Яшчэ адна праблема – непаўналетнія дзеці ў такіх сем'ях. Тут высяленне можа адбыцца толькі пасля пазбаўлення бацькоўскіх правоў. І пры гэтым жыллё захоўваецца за дзіцем да дасягнення паўналецця.

40% ад кошту камунальных паслуг сёння аплачваюць жыхары, 60% аплачваецца з дзяржаўнага бюджэту. Па ацэнках спецыялістаў, працэнт аплаты жылля грамадзянамі будзе расці паступова да 100%, як гэта зроблена ў суседняй Літве. А гэта значыць, што аплата за кватэру будзе толькі павышацца.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 8.4 руб. | 15.4 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2152,00 | 2153,00 |
| Еўра | 2599,51 | 2568,85 |
| Злоты | 550,88 | 541,50 |
| Літ | 752,91 | 743,82 |
| Расійскі рубель | 75,43 | 75,22 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2155/2170 | 2155/2170 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 7.4 | 14.4 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13830 | 13830 |
| Сасіскі, 1 кг | 5020 | 5020 |
| Селядзец, 1 кг | 3000 | 2700 |
| Рыс, 0,9 кг | 1000 | 1100 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1500 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1510 | 1550 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 530 | 530 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2300 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1150 | 1200 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 950 | 850 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1000 | 800 |
| Капуста, 1 кг | 250 | 300 |
| Морква, 1 кг | 400 | 300 |
| Лімоны, 1 кг | 2600 | 2800 |
| Апельсіны, 1 кг | 2300 | 2300 |
| Яблыкі, 1 кг | 1200 | 1100 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 900 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2300 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2000 | 2000 |
| Сала, 1 кг | 3300 | 3200 |
| Бульба, 1 вядро | 2400 | 2400 |
| Яблыкі, 1 кг | 1100 | 1000 |

■ ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

## Здаваць грошы абавязкова?

**Штогод па нашых дварах ходзіць работніца сельсавета і збірае грошы на добраўпарадкаванне сельсавета. Тым, хто не здае, прыходзяць лісты, дзе напісана, што на чалавека пададуць у суд. На падставе якога дакумента гэта робяць?**

**Раіса Кароль,**
**Маладзечанскі р-н,**
**Гарадзілаўскі сельсавет.**

Маладзечанскі раённы савет дэпутатаў сваім рашэннем ад 11.02.2004 года ўвёў на тэрыторыі раёна мэтавы грашовы збор дзеля «прыцягнення дадатковых даходаў у раённы бюджэт». Памер збору — з кожнай гаспадаркі ці дома ў год 25% базавай велічыні на момант аплаты. Грошы накопліваюцца на рахунках сельсканкамаў. А затым накіроўваюцца на добраўпарадкаванне вуліц, спортпляцовак, утрыманне і рамонт могілак, дарог у населеным пункце, калодзежаў, асвятленне вуліц і іншых грамадскіх месцаў, на утрыманне грамадскіх лазняў.

Гэтае рашэнне, патлумачылі ў савеце дэпутатаў, абавязковае для ўсіх жыхароў раёна. Калі райсавет дэпутатаў прымае рашэнне пра ўвядзенне мэтавага збору самастойна. Напрыклад, у Смаргонскім раёне такога збору пакуль што няма. Аднак, патлумачылі ў Смаргонскім раённым савеце дэпутатаў, плануюць прыняць падобнае рашэнне.



Падрыхтавала **Святлана ЦІШКО.**

## Падарункі ад банка

**МАЛАДЗЕЧНА. «Беларусбанк» выпусціў 700-тысячную пластыкавую картку. Яе атрымала 12 красавіка жыхарка Маладзечна.**

Уладальніцай 700-тысячнай пластыкавай карткі стала настаўніца матэматыкі СШ №2 **Жанна Баранава**. Яна атрымала ад банка 700 тысяч рублёў і кухонны камбайн, а таксама музычны падарунак ад ансамбля «Крынічка».

**Святлана ЦІШКО.**

## Для адзінага рубля няма ўмоў

**МІНСК. За дзевяць месяцаў да ўстаноўленых тэрмінаў увядзення на тэрыторыі Беларусі адзінага рубля беларускаму і расійскаму бакам не ўдалося стварыць эканамічныя перадумовы для завяршэння валютнай інтэграцыі.**

Такое меркаванне 12 красавіка выказаў намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі **Павел Калаур**, выступаючы на пасяджэнні пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце.

«Эканамічныя перадумовы», на думку П.Калаура, заключаюцца ў стварэнні роўных умоў гаспадарання для прадпрыемстваў дзвюх краін і, у першую чаргу, на ўстанаўленні роўных цэн на энерганосьбіты.

Паводле слоў П.Калаура, Беларусь дасць згоду на ўвядзенне расійскага рубля, калі палічыць, што выгада ад валютнай інтэграцыі перавысіць выдаткі беларускага боку.

Ён таксама пракаменціраваў заяву расійскага міністра фінансаў **Аляксея Кудрына** аб немагчымасці па віне беларускага боку ўвядзення з 2005 года адзінай валюты. Паводле слоў П.Калаура, «у Кудрына не было ніякіх падстаў для такога кшталту заяў». Па ўсім відаць, выказаў здагадку намеснік старшыні праўлення Нацбанка, расійскі чыноўнік яшчэ раз агучыў пазіцыю ўрада Расіі, які «не гатовы браць удзел у тых кампенсацыях, якія мы толькі што абмяркоўвалі».

П.Калаур лічыць, што многія праблемныя пытанні саюзнага будаўніцтва маглі б быць вырашаны пасля прыняцця Канстытуцыйнага акта Саюзнай дзяржавы.

**Паводле БелаПАН.**

■ СТЫХІЯ

# Вада не хоча адступаць

## Паміж Вілейкай і Маладзечнам з'явілася «нічыйная» тэрыторыя

**МАЛАДЗЕЧНА. Дачны кааператыў "Масцішча" затапіла тры тыдні таму. Больш за 20 участкаў, уладальнікамі якіх з'яўляюцца жыхары Маладзечна, аказалася пад вадой. У многіх дамах яна заняла падвалы, у асобных прымусіла плаваць маёмасць. У пазамінулым нумары газеты мы ўжо расказвалі пра разліў Віліі, які і прывёў да затаплення ў "Масцішчы".**

"За першыя тры дні пасля паводкі вада ўпала на 20 сантыметраў, — расказвае Міхалай Цалуйка, — дачны домік і ўчастак якога таксама аказаліся падтопленымі. Людзі спадзяваліся, што за дзеньдругі стыхія адступіць. Аднак ужо больш за тыдзень вада знаходзіцца на адным узроўні і не збіраецца пакідаць нашы ўчасткі".

Перш чым прыйсці ў рэдакцыю, прадстаўнікі ад кааператыва тэлефанавалі ў Маладзечанскі гаррайаддзел па надзвычайных сітуацыях, пакінулі заяву з просьбай дапамагчы ў райвыканкаме, былі ў лясгасе, меліяратараў. Іх прымалі, ім спачувалі, давалі парады, але дзейснай дапамогі так ніхто і не аказаў.

Стаміўшыся хадзіць па кабінетах, уладальнікі падтопленых дач самі, так параілі ў лясгасе, абследавалі ўсе меліярацыйныя каналы ля пасёлка. Ні затораў, ні бабрыных домікаў, якія б перашкаджалі адтоку вады, не знайшлі. Але ж нешта ж ўсё-ткі трымае, не дае пакінуць тэрыторыю пасёлка?

"Участкі пад будаўніцтва дач, — расказвае **Соф'я Чэрнікава**, — мы атрымалі 13 гадоў таму. І ніколі не мелі такой бяды. Наадварот, выпадалі гады, калі ў калодзежах адчуваўся дэфіцыт вады. Летась, надзіва ўсім, у бярэзнічку, што за некалькі дзесяткаў метраў ад нашых участкаў, цэлае лета стаяла мора. Ніхто на гэта не звярнуў увагі. А відаць, было варта. Вада да нас прыйшла менавіта адтуль, з лесу. Бачна, затор дзесьці ўсё ж ёсць".



**Затапленне дачных участкаў, што належаць членам кааператыва "Масцішча", адбылося тры тыдні таму, але і сёння там нельга прайсці без рыбацкіх ботаў.** Фота Марыны СЛІЖ.

У вытворча-тэхнічным аддзеле Маладзечанскага прадпрыемства меліярацыйных сістэм, куды яны звярталіся з просьбай дапамагчы, прадстаўнікам ад кааператыва паказалі карту ўладанняў і растлумачылі, што меліярацыйныя каналы ў раёне Масцішча не іх гаспадарка, далі тэлефоны калег суседняга раёна. Галоўны інжынер Вілейскага прадпрыемства меліярацыйных сістэм (ПМС) **Анатоль Шуманскі** выязджаў у раён затопленых дач. "Нашай віны ў тым, што ўчасткі затопленыя, няма", — адказаў ён на зварот Соф'і Чэрнікавай. У тэлефоннай размове з карэспандэнтам "РГ" **Анатоль Шуманскі** яшчэ раз пацвердзіў, што падтапленне — не вынік халатнасці работнікаў ПМС. І, абапіраючыся на тапаграфічныя карты, паведаміў, што ўсе сцёкі з масцішчанскіх дач праходзяць на тэрыторыі Маладзечанскага раёна.

У сераду раніцай зноў патэлефанавала ў Маладзечанскае ПМС. "А вы ведаеце, — адказалі па тэлефоне ў прыёмнай, — у нас толькі што былі масцішчанскія дачнікі". "Што-небудзь вырашылі?" – спыталася з надзеяй. Ні галоўнага інжынера, ні інжынера, якія вялі з імі гутарку, сакратар не знайшла. Кудысьці паехалі па справах. Праз нейкі час зноў звязалася з ПМС. "Дык гэта ж не нашы землі", — адказаў мне мужчына на другім канцы провада і паклаў трубку.

А чые? Пытанне павісла ў паветры...

Калі матэрыял ужо быў падрыхтаваны да друку, рэдакцыя атрымала факс з Вілейскага ПМС за подпісам галоўнага інжынера А. Шуманскага. "Згодна з інвентарызацыяй меліяраваных зямель Вілейскага раёна, — паведамляецца ў ім, — нашых гідратэхнічных збудаванняў на дадзеным участку няма. Магчыма, будаўніцтва асушальнай сеткі па лясным масіве праводзілася Маладзечанскім лясгасам. Дадзены ўчастак зямлі належыць Маладзечанскаму філіялу Мінскай вытворчай лясной гаспадаркі".

**Марына СЛІЖ.**

■ РАСІЗМ

# Пракуратура занялася антысемітамі

**МІНСК. Праваахоўныя органы заняліся расследаваннем фактаў праяўленняў антысемітызму ў Гомелі і Полацку.**

У студзені ў гарадскім транспарце Гомеля малады людзі распаўсюджвалі ўлёткі з тэкстамі артыкулаў маскоўскай газеты «Русь Православная». У іх яўрэі абвінавачваліся ў спробах «выкараніць хрысціянства». Ва ўлётках, напрыклад, гаварылася: «Цяпер пачатак цяжкіх ваенных падзей. Рухавіком гэтага зла з'яўляюцца яўрэі».

Гэтыя шавіністычныя матэрыялы распаўсюджвалі члены беларускай рэгіянальнай арганізацыі «Рускага нацыянальнага адзінства» (РНА), якія пакінулі на ўлётках свае каардынаты. А каб не было ніякіх сумненняў у мэтах існавання арганізацыі, на будынку Гомельскага яўрэйскага абшчыннага дома неанацысты намалявалі свастыку, на суседнім доме — яшчэ адну і абрэвіятуру «РНА».

Аб існаванні такой неанацысцкай групы ў Віцебскай вобласці сведчыць з'яўленне антысеміцкіх надпісаў на дзвярах Полацкага яўрэйскага абшчыннага дома.

Пасля звароту дырэктара беларускага прадстаўніцтва амерыканскай грамадскай арганізацыі «Саюз камітэтаў у абарону былых савецкіх яўрэяў» («Union of Councils for Soviet Jews») Якава Басіна ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь на яго імя паступілі два адказы, датаваныя 24 і 31 сакавіка 2004 года.

З упраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Гомельскай вобласці паведамілі, што «цяпер намі праводзяцца неабходныя аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы, мэтай якіх з'яўляецца ўстанаўленне факта распаўсюджвання згаданай друкаванай прадукцыі і асоб, датычных да гэтага».

А ў лісце пракуратуры горада Полацка гаворыцца аб адмене пастановы Полацкага ГАУС у адмаўленні аб узбуджэнні крымінальнай справы па «супрацьпраўных дзеяннях невядомых асоб, якія зрабілі надпісы антысеміцкага характару на дзвярах Полацкага яўрэйскага абшчыннага дома... Матэрыялы накіраваны начальніку Полацкага ГАУС для арганізацыі дадатковай праверкі».

**Паводле БелаПАН.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

**МАЛАДЗЕЧНА. У вяскоўкі з Малых Кашэўнікаў выкралі 60 еўра і пенсійнае пасведчанне, якія захоўвала ў куфэрку.**

Магчыма, гэта зрабіла дачка гаспадыні. Узбуджана крымінальная справа.

**МАЛАДЗЕЧНА. З салона сувязі, што месціцца ў адным з адміністрацыйных будынкаў на тэрыторыі ААТ "Маладзечанскі кірмаш", выкралі 13 мабільных тэлефонаў.**

Гэта здарылася ў ноч з 9 на 10 красавіка. Зладзеі падставілі лесвіцу да акна і выбілі шыбу, праз якую забралі ўсе тэлефоны, што ляжалі на вітрыне. Узбуджана крымінальная справа.

**МАЛАДЗЕЧНА. Зладзеі залезлі ў магазін "Эстыка-інвест", што ў Дзякшнянах, папярэдне выразаўшы адтуліну ў сцяне будынка.**

Здарэнне адбылося ў ноч з 8 на 9 красавіка. Мяркуецца, зладзеі прыехалі на дзвюх машынах, на якіх і вывезлі дарагія гарэлку, віно, цукеркі і іншыя прадукты харчавання. Сігналізацыя ў магазіне была адключана. Узбуджана крымінальная справа.

**МАЛАДЗЕЧНА. 10 красавіка з аўтамабіля, што стаяў на неахоўваемай стаянцы ААТ "Маладзечанскі кірмаш", выкралі 37 пар спартыўнага жаночага абутку.**

Сведка-падлетак бачыла, як мужчына падчас бойкага суботняга гандлю перакладаў тавар з адной машыны ў другую. Па яе словах складзены фотаробат злодзея. Узбуджана крымінальная справа.

**МЯДЗЕЛ. У ноч на панядзелак абрабавалі магазін ў цэнтры вёскі Старыя Габы.**

Зладзеі забралі выручку, якая ў гэтыя святочныя дні была каля 5 мільёнаў рублёў. Мелі час выбраць канькакі, парфуму.

**ВІЛЕЙКА. У горадзе абакралі абсталяваны сігналізацыяй дом.**

Гаспадары яго жывуць і працуюць за межамі Беларусі, а прыстаўленых сачыць за гаспадаркай сваяк забыўся пасля чарговага наведвання здаць жыллё на сігналізацыю.

**ВІЛЕЙКА. Дзве банкі фарбы і слоік малака ўкралі невядомыя ў жыхаркі вуліцы Каралёва.**

Усё гэта дабро жанчына захоўвала ў верандзе, прыбудаванай да дома. Але доўгія зладзейскія рукі дасталі і адтуль.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ НАВІНЫ

# Ліпавыя «бабкі»

**СМАРГОНЬ. У абменным пункце «Белпрамбудбанка» супрацоўнікі міліцыі затрымалі жыхарку горада, якая спрабавала збыць падробную купюру вартасцю 100 долараў ЗША. Узбуджана крымінальная справа.**

У Смаргонскім раёне за першыя 2,5 месяца 2004 года зафіксавана 7 фактаў фальшывамонетства: у пунктах абмену валюты смаргонцы спрабавалі памяняць 4 стодоларавых купюры, адну — вартасцю ў 100 еўра і адну — вартасцю ў 20 тысяч беларускіх рублёў.

Усе падробкі нацыянальнай валюты ў Беларусі робяць на струйных прынтарах. Беларускія грошы падробліваюць больш прымітыўным спосабам, чым валюту іншых краін. Каб распазнаць такую фальшыўку, неабходная элементарная ўважлівасць.

Падробную замежную валюту, па словах супрацоўнікаў міліцыі, вырабляюць не ў Беларусі. Яна трапляе да нас з Расіі, Польшчы. Часта праз людзей, якія нават не падазраюць, што іх грошы падробныя, так званыя «добрасумленныя збытчыкі». Падобны збыт законам не караецца. А вось наўмыснае фальшываманецтва караецца пазбаўленнем волі на тэрмін ад 2 да 7 гадоў.

Як мяркуюць супрацоўнікі міліцыі, большасць фальшывых грошай, знойдзеных у Смаргоні, прыехала з Расіі разам з мужчынамі, якія выязджаюць на заробкі. Пазнаць гэтую «ліпу» амаль немагчыма: яна зроблена вельмі якасна. Бываюць выпадкі, калі нават банкаўскія работнікі з цяжкасцю вызначалі фальшывыя грошы — гэта так званыя суперпадробкі, якія робяць сапраўдныя асы-фальшываманетчыкі.

Супрацоўнікі міліцыі паведамляюць, што за апошнія 2-3 гады гэты крымінальны бізнэс значна «памаладзеў».

**Ірына ЛУГІНА.**

**Прыкметы падробных банкнот нацыянальнай валюты:**

— адсутнасць ці імітацыя вадзянога знака;

— адсутнасць ці імітацыя абаронччай ніткі з мікратэкстам «НБ РБ» і каляровых абарончых валокнаў у паперы;

— адсутнасць рэльефнасці;

— адсутнасць схаванай выявы.

# Забойства ў сталіцы

**МІНСК. Уначы 11 красавіка ў 2 гадзіны 30 хвілін у лесапаркавай зоне паміж сталічнымі вуліцамі Гурская, Алібегава і праспектам Дзяржынскага супрацоўнікі міліцыі знайшлі труп дзяўчынкі.**

Асоба дзіцяці, якому на выгляд 9-10 гадоў, пакуль не ўстаноўлена. Як мяркуецца, смерць дзяўчынкі наступіла 10 красавіка ад удушэння, аднак на яе целе ёсць і іншыя пашкоджанні. Ці была дзяўчынка падвергнута сэксуальнаму насіллю, міліцыя пакуль таксама не вызначыла.

15 красавіка супрацоўнікі крымінальнага вышуку сталіцы ўстанавілі, што дзяўчынку 1994 года нараджэння 6 красавіка задушыла металічным дротам уласная маці 34-х год. Жанчыну затрымалі.

**Паводле БелаПАН.**

■ АДКРЫТЫ ЎРОК

# Павяжам гальштук?

**"Добра павязаны гальштук – гэта першы крок да поспеху ў жыцці" – прыкладна так сказаў англійскі пісьменнік Аскар Уайльд. Я б яшчэ дадаў – добра падабраны гальштук.**

Цяпер у нашым грамадстве (мяркую па гутарках з сябрамі і знаёмымі) гальштук асацыіруецца з начальствам ці з вяселлем. Такім чынам, калі вы ўбачыце мужчыну ў гальштуку – гэта будзе начальнік ці мужчына, які ідзе на вяселле.

Па сваіх назіраннях я бачу, што калі да чыноўніка сярэдняга рангу зайсці ў кабінет у майцы, ён успрымае цябе як істоту ніжэйшага рангу, якая зайшла нешта папрасіць. Калі ж зайсці ў сарочцы і гальштуку, ты ўжо аказваешся з ім на роўных, і бярэш тое, што патрэбна.

Паколькі кожнаму даводзіцца ў сваім жыцці блукаць па калідорах улады, завядзіце сабе хоць адзін гальштук. І яшчэ, мужчыны ў гальштуках надта падабаюцца жанчынам. Халасцякі, рабіце высновы!

Ну, а цяпер трохі гісторыі. Гальштук вядзе сваю біяграфію ад "шыйных павязак", якія прыдумалі старажытныя рымляне, каб абараніць шыю ад холаду, ад датыкання да грубай вопраткі і даспехаў. Пра паходжанне гальштука гаворыць і сама яго назва. У дакладным перакладзе з нямецкай гэта – "шыйная хустка". Французскую назву гальштука "кават" звязваюць з харватамі, якія служылі ў французскай арміі. Ваенныя тады насілі шыйныя хусткі з карункам, завязаныя складаным бантам. Але на вайне ў час начной трывогі афіцэры спешна ахутвалі шыю хусткай, а свабодныя канцы затыкалі ў пятлю мундзіра.



Асаблівую папулярнасць у дзелавых людзей гальштук набыў у XX стагоддзі, ператварыўшыся ў абавязковы атрыбут убрання. «Джынсавы час», зразумела, унёс свае змены ў правілы паводзін, але не выцесніў гальштук.

Архіў "РГ".

Паступова на змену банту прыйшоў просты вузел – прататып сучаснага гальштука. Але ёсць і супрацьлеглы пункт погляду: "Гальштук, у адрозненне ад іншых прадметаў туалета, не прыносіць ніякай практычнай карысці".

Па выніках пяцігадовых даследаванняў амерыканскіх вучоных, туга завязаны на шыі гальштук павышае крывяны ціск унутры вочнага яблыка, што выклікае глаўкому, якая можа прывесці да слепаты.

Таму трэба правільна завязваць гальштук, каб ён не сціскаў шыю, а трохі адставаў ад яе і быў ніжэй края каўняра. Такім чынам, насіць гальштук трэба, але насіць яго трэба правільна.



Адкрыты ўрок вядзе
Ігар КІЦІКАЎ,
kitikoff@tut.by.

■ ЧЫТАЧ МЯРКУЕ

# Нецэнзуршчына

**МАЛАДЗЕЧНА. Толькі 10% падлеткаў ніколі не ўжываюць нецэнзурныя словы. Такія вынікі апытання, праведзенага юнымі журналістамі цэнтра пазашкольнай работы.**

Узровень культуры асаблівa ярка выяўляецца ў маўленні. Звычку лаяцца шмат хто з дарослых набывае ў падлеткавым узросце. Карэспандэнты цэнтра пазашкольнай работы правялі апытанне сярод дзяцей і падлеткаў ва ўзросце ад 9 да 18 год на тэму «Амаральнасць нашай мовы». Нягледзячы на невялікую колькасць апытаных – 300 чалавек – ужо можна меркаваць аб культуры падлеткаў.

Толькі 10% апытаных адказалі, што ніколі ў жыцці не выкарыстоўвалі нецэнзурныя словы. 40% ужываюць іх рэдка, 46% – часта, а 4% – пастаянна. Большасць дзяцей гаворыць брыдкія словы ў кампаніі сяброў, аднагодкаў, толькі нямногія не саромеюцца ўжываць іх у школе (16%), у грамадскіх месцах (12%), дома (5%).

Прычыны, якія пабуджаюць падлеткаў да брыдкаслоўя, розныя: некаторым гэтыя словы дапамагаюць выказваць пачуцці (14%), 26% спасылаюцца на звычку, 3% лаюцца толькі ў адказ на крыўду ці абразу. Не змаглі даць пэўнага адказу 21% апытаных, яны абмежаваліся стандартным «не ведаю» ці «проста так». Але часцей за ўсё падлеткі брыдкасловяць з жадання вылучыцца сярод аднагодкаў, здавацца дарослымі, «крутымі», падтрымаць кампанію.

На жаль, большасць апытаных спакойна ці абыякава ставіцца да гэтай праблемы. Толькі 18% дзяцей адказалі, што ім непрыемна чуць брыдкія словы з вуснаў аднагодкаў.

На пытанне «Ці ўжываюць нецэнзурныя выразы вашы бацькі?» сцвярджальна адказалі 20% вучняў. Большасць бацькоў стараецца не рабіць гэтага ў прысутнасці сваіх дзяцей. Дзе ж крыніца узнікнення гэтай праблемы? Канешне, жаргонным і нелітаратурным словам дзеці вучацца ад дарослых, аднагодкаў. Але асноўнай прычынай брыдкаслоўя з'яўляецца абыякавасць да маральных праблем грамадства. Менавіта яна прывяла да таго, што лаянка апошнімі словамі зараз лічыцца амаль што добрым тонам, а многія падлеткі не могуць выказаць сваю думку, не скарыстаўшы брыдкія выразы.

Валянцін ЦІШКО,
гуртковец маладзечанскага цэнтра пазашкольнай работы.

## Ці брыдкасловіце?




Вынікі апытання дзяцей і падлеткаў ад 9 да 18 гадоў карэспандэнтамі маладзечанскага цэнтра пазашкольнай работы.

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.iig.pl.**




# Ад Будслава да ГУЛАГа

Частка не пасьпела была перайсьці цераз мост, а частка асталася на другім баку ракі. Некалькі дзён кружылі мы зь дзецьмі каля ракі ня ведаючы, што рабіць з сабою. Наканец рашылі перабрацца за Эльбу па ўзарваным мосьце. Пераправа была небясьпечная, але на яе рашыліся. З рэчамі ў руках і на плячах, сьлізгаючыся па вісячых бэльках, асягнулі мы другі бераг ракі. Рады перамозе пайшлі ўперад. Ня доўга мы цешыліся. Дайшоўшы да ракі Мульды, прытоку Эльбы, мусілі зноў затрымацца. На мосьце сталі амэрыканскія жаўнеры, і іх далей не дазвалялі. Сабралася каля гэтага мосту тысячы людзей розных нацыянальнасьцяў.

Зь дзецьмі мы расталіся перад мостам на Эльбе. Пакінулі іх у лагеры, дзе было многа сабраных старэйшых савецкіх людзей і яны мелі апеку. Дзеці расставацца з намі не хацелі. Наражаць іх на небясьпечную пераправу праз мост мы не маглі. Як жа яны плакалі й галасілі, расстаючыся з намі! Крычалі на ўсю вёску, аж людзі зьбегліся глядзець, што сталася. Плакалі дзеці й мы плакалі, бо да іх прывыклі, й некаторых любілі так, як бацькі любяць родных дзяцей.

Назаўтра пасьля нашага расстаньня бачым: нехта да нас пад'яжджае на роварах. Прыглядаемся, а гэта адзін з малышоў — Саша. Перабраўся цераз мост, здабыў недзе ровар і прывёз нам хлеба ды іншых харчоў, бо ведаў, што мы галодныя, а ім у лагеры есьці далі. Ня помню прозьвішча Сашы. Відаць толькі было, які ён да нас прывязаны. Ізноў расстаньне й сьлёзы. Як ён нас знайшоў, ня ведаю.

Над Мульдай у Вассэрштадт мы прасядзелі два тыдні. Жылі з таго, што нам далі немцы. Папросту хадзілі па хатах і жабравалі. Спалі ў руінах разваленых дамоў. Многа там было італьянцаў. Яны ўпрыгожвалі наш час сьпевам. Вечарам распаляць вогнішча, акружаць яго й сьпяваюць. Тады я першы раз пачула слаўную песьню „Мама". Ня маючы што рабіць, пачала я вучыцца ад італьянцаў іх мове. Рабіла на подзіў вялікія посьтупы, бо знала многа слоў лацінскіх. Пачала зь імі лёгка паразумевацца. Сталася праз гэта сярод іх вельмі папулярнай. Хадзілі за мною чарадою. Прыносілі розныя прысмакі, хацелі забраць у Італію.

Адной раніцы, устаўшы пасьля ночы, убачылі мы між намі савецкіх жаўнераў. Амэрыканцы на мосьце зьнiклі. Акружылі нас усіх жаўнеры й пагналі на ўсход. Сабралі ў васобны лагер грамадзян савецкіх, асобна — заходнікаў. Прыгналі нас у аграмадны лагер недалёка ад Бэрліна — у Людвігсфэльдэ. Сабралася людзей хіба 30 тысяч. Лагер брудны, поўны клапоў. Ляжаў ён пры вялікай дарозе-шашы. Дарогай гэтай кожны дзень гналі людзей з захаду на ўсход. Адны ехалі на машынах, другія йшлі пехатой. Гаварылі, што амэрыканцы й англічане выдаюць савецкім уладам іх грамадзян. Людзі йшлі ды ехалі без канца.

Апалі нам рукі, калі пабачылі, як нас ашукалі й як бязьлітасна аграбілі. Здаліся мы на ласку лёсу.

У 1948 годзе раптам звольнілі Вэру з працы й сагадалі ехаць у Польшчу. Паехала яна. У 1949 годзе 9 ліпеня выйшла яна замуж за свайго старога ўхажора Стаха.

### Я асталася ў Бэрліне.

Працуючы ў Бэрліне, пачулі мы, што наша сястра Гэльця, якая з прыходам на Беларусь савецкай улады была вывезена ў Сібір і цяжка працавала ў шахце вугля — знаходзіцца ў Польшчы. Пачалі мы з Вэрай шукаць яе. Узялі водпуск, паехалі ў Польшчу й даведаўшыся, што прабывае яна ў Пазнаншчыне, паехалі туды й цэлы месяц хадзілі ад мястэчка да мястэчка, ад вёскі да вёскі, шукаючы яе. Наканец знайшлі яе ў гаспадара каля Гнезна. Адразу забралі яе, завезлі ў Зялёную Гуру й аддалі ў ткацкую школу. Пасылалі ёй пасылкі.

Будучы ў Бэрліне, пачула я пра сумны лёс Пётруся й Франка — маіх братоў. Не магла з гэтым памірыцца і ўсьцяж плакала. Нараз у час вялікай урачыстасьці, калі стол быў застаўлены рознымі прысмакамі й напоямі, я раптам зрывалася ад стала, бегла ў свой пакой і залівалася сьлязамі. Мне цяжка было, што мы жывём у дастатку, а яны галадаюць і мерзнуць.

Пасьля выезду Вэры запрыязьнілася я з Флёркам Вячоркам, палякам з бэрлінскай палёніі. Кожную вольную хвіліну праводзілі мы разам. Вельмі любіла мяне яго матка. Разам зь ім сабраліся паехаць у жніўні 1949 года на востраў Ругію, правесьці над морам свой водпуск.

Ночку 10 жніўня прысьніўся мне дзіўны сон. Бягу з дарогай, якая раптам крыжуецца. Адна вядзе на захад, другая на ўсход. Затрымалася я й глянула на захад і ўбачыла сваіх сяброў зь Вільні. Замест да іх, я павярнула на ўсход.

Анеля КАТКОВІЧ.

Працяг будзе.

■ ІНТЭРНЭТ

# Прыколы TUT

**Новаму афармленню сайта TUT.BY 1 красавіка споўніўся адзін месяц. І роўна месяц яго наведвальнікі карыстаюцца пошукавай сістэмай. За гэты час было зроблена 500 тысяч пошукавых запытаў. Вашай увазе прапануюцца самыя незвычайныя і вясёлыя з іх.**

Запыты кшталту "ведаю, у Мінску робяць такія стрыжкі, толькі не памятаю дакладную назву салона" наводзяць на думку, што наведвальнікі ўсур'ёз успрымаюць TUT.BY як жывога субяседніка.

У дзесятку самых папулярных запытаў трапілі разнастайныя эратычныя фантазіі карыстальнікаў Інтэрнэту, напрыклад, "знаёмствы для бясплатнага сэксу" або "жанчыны эратычныя". Знаўцаў цікавяць выключна "голыя сакратаркі".

Тэму аголенага цела дакладна адлюстроўвае наступная статыстыка: запытаў "голая Брытні Спірс" амаль удвая больш, чым проста "Брытні Спірс". Ненамнога ад замежных калег адсталі беларускія поп-зоркі: карыстальнікі шукалі на TUT "эратычныя фота Ларысы Грыбалёвай" і "голую Іну Афанасьеву". Тамара Лісіцкая, Ірына Дарафеева і немалады ўжо Алесь Ярмоленка (!) цікавілі наведвальнікаў прыкладна ў тым жа кантэксце.



Навічкі шукаюць у Інтэрнэце проста "што-небудзь", частыя наведвальнікі пошукавых сайтаў вырашаюць глабальныя праблемы: "як жыць ва ўмовах малых дозаў радыяцыі". Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

Бум на рынку мабільнай сувязі сказваецца і на пошукавай статыстыцы. Сярод тысячаў запытаў на гэтую тэму сустракаюцца і даволі арыгінальныя: "шукаю лоха, які аддасць класны тэлефон".

Увогуле, Інтэрнэт дапамагае знайсці адказы на тысячы жыццёва важных пытанняў, часам даволі нечаканых: што такое шчасце; беларускія спартсмены што ядуць; што трэба гаварыць дзяўчыне, каб спадабацца; што падарыць дырэктару; як карміць кастрыраванага ката; як навесці псоту; што нам расказвае трагікамедыя Макаёнка "Зацюканы апостал".

Аднак карыстальнікі ўсё больш прывыкаюць вырашаць з дапамогай Інтэрнэту не толькі асабістыя тэрміновыя пытанні, але і глабальныя праблемы: "ці добра, што клімОт цяплее", "як жыць ва ўмовах малых дозаў радыяцыі", "як выратаваць чалавецтва ад бяздушша".

Нарэшце, некаторыя навічкі ў Інтэрнэце шукалі проста "што-небудзь". Дарэчы, у адказ на падобныя запыты TUT прапануе пагладзець 45025 Інтэрнэт-старонак. Ва ўсіх тэкстах, размешчаных там, ёсць словы "што-небудзь": як маляваць лініі ці яшчэ што-небудзь; калі доўга мучыцца, што-небудзь атрымаецца; першы свой сольны дыск "Што-небудзь" прадставіла Ларыса Грыбалёва. Гасцявая кніга каманды КВЗ запрашае: «А тут вы можаце напісаць яшчэ што-небудзь»; ёсць спасылка на форум, дзе невядомы праграмер цікавіцца: «Хто-небудзь ведае што-небудзь пра канфлікты чыпсетаў з відэакартамі?»; «Беларуская газета» разважае на тэму «Нам гэты банк што-небудзь павінен?» і гэтак далей – абсалютна выпадковыя сайты.

Жадаю вам, каб вы заўсёды ведалі, чаго хочаце.

**Святлана ЦІШКО.**

■ ПАДЛЕТАК

# Адразу трэба зразумець, пасля — дапамагчы

**ВІЛЕЙКА. Дрэннай моладзі не бывае, лічаць у інспекцыі па справах непаўналетніх Вілейскага раённага аддзела ўнутраных спраў і стараюцца бачыць у падлетках не злачынцаў, а дзяцей, што заблудзіліся.**

На горад, дзе працуюць 5 сярэдніх, 1 пачатковая школа, 2 прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, недзяржаўны тэхнікум бізнесу і права, прыходзіцца 180 цяжкіх падлеткаў. Гэта не толькі мясцовыя дзеці. Ёсць сярод іх ураджэнцы Мінскага, Віцебскага, Магілёўскага раёнаў, якія прыехалі сюды атрымаць прафесію.

"Супрацоўнікі інспекцыі па справах непаўналетніх, — расказвае яе начальнік **Уладзімір Качан**, — міліцыянерамі сябе не лічаць. Хутчэй за ўсё мы педагогі, толькі ў форме. І галоўная наша зброя – слова. Розніца толькі ў тым, што кожнае дзіця ўспрымае яго па-свойму. Аднаму, каб уявіць за розум, дастаткова некалькіх сустрэч з інспектарам. Іншы глядзіць табе ў вочы, ківае з разуменнем галавой, а выйдзе на вуліцу, зноў "апранаецца" ў сваю скуру. З такімі хамелеонамі нават цяжэй працаваць, чым з дзецьмі, якія нікога і нічога не хочуць чуць. Пакуль апошнія сядзяць з каменнымі тварамі, першыя паспяваюць здзейсніць паўторнае злачынства".

Што прымушае падлеткаў браць чужое? Даць адназначны адказ на гэта пытанне не бярэцца ніхто. Бо што ні чалавек, свой лёс, свая гісторыя. Коля, напрыклад, залез першы раз у аўтамашыну і ўкраў аўтамагнітолу дзеля "прыколу", Андрэй здзейсніў такое ж злачынства за кампанію з сябрамі. Разам выпілі, разам пайшлі на справу. Вадзіму патрэбны былі грошы, Аліку даказаць, што не трус.

"Большасць дзяцей, — гаворыць Уладзімір Качан, — трапляе ў непрыемныя гісторыі з-за непадрыхтаванасці да жыцця. Пакідаючы бацькоўскі дом, дзе за іх многае вырашалі тата з мамай, і адчуўшы свабоду, не могуць самастойна разабрацца дзе дабро, а дзе — зло. Гэта дрэнна, і ў той жа час не смяротна. Усе мы людзі, усе са сваімі памылкамі, недахопамі, праблемамі. Проста, у адных дарога прамая, роўная. А другому, каб стаць чалавекам, трэба не раз сутыкнуцца з жыццёвымі рыфамі. Наша ж задача — не даць моладзі разбіць аб іх свае лёсы. Дапамагчы зразумець, што не варта разменьваць жыццё на дробязі".

Першы прывод у міліцыю не заканчваецца пастаноўкай на ўлік. Інспектары лічаць, што такімі дзеяннямі падлетка можна проста забіць. Яны ў кожным асобным выпадку вывучаюць абстаноўку ў сям'і, цікавяцца ўзаемаадносінамі паміж бацькамі і дзецьмі. Калі выпітая чарка выпадковасць – абмяжоўваюцца гутаркай. Бацькі не могуць кіраваць сынам альбо дачкой, яны павінны імкнуцца стаць іх памочнікамі, партнёрамі, дарадцамі і адначасова псіхолагамі. Каб дапамагчы падлетку, трэба перш за ўсё яго зразумець...

**Марына СЛІЖ.**



У гульнях дзеці часта пераходзяць межы і бываюць жорсткімі. Фота ByMedia.Net

■ НІШТО НЕ ЗАМЕНІЦЬ КНІГУ

# Як прайсці ў бібліятэку?

**СМАРГОНЬ. Месцаў, дзе чалавек можа мець зносіны з кнігай, не так ужо і шмат. Калі выключыць дамашнюю канапу ды ўтульнае крэсла, то застаюцца толькі бібліятэка і кніжны магазін. Для таго, каб высветліць, у якіх адносінах знаходзяцца сёння жыхары Смаргоні з яе вялікасцю Кнігай, я і наведала месцы, дзе гэтыя самыя зносіны і адбываюцца.**

**Людміла Мальчанка** працуе ў цэнтральнай раённай бібліятэцы (ЦРБ) ужо 14 гадоў і гаворыць, што за гэты час самі чытачы і іх літаратурныя густы відавочна змяніліся. Летась у ЦРБ было зарэгістравана 4279 чытачоў (для параўнання: у 2002 годзе – 4255). Калі гаварыць аб полавых суадносінах наведвальнікаў бібліятэкі, то тут Людміла Міхайлаўна адзначае, што колькасць мужчын і жанчын, якія жадаюць правесці час за чытаннем кнігі, прыкладна аднолькавая. На радасць бібліятэкараў, сярод чытачоў ёсць нават цэлыя сем'і, якія запісваюць кнігі на адзін фармуляр, а потым чытаюць іх усе разам. І калі гадоў 10-15 назад бібліятэкар не ведаў чым заняцца ў свой рабочы дзень, паколькі чытачоў былі лічаныя адзінкі, то сёння яму даводзіцца абслугоўваць да сотні чалавек у дзень.

Думаю, вы яшчэ не забыліся часы, калі кніжныя паліцы ў бібліятэках гнуліся ад цяжару шматлікіх тамоў Леніна і яго "братоў" па ідэалогіі Маркса і Энгельса. Сучаснае прамадства будуецца сёння не па прынцыпах мысліцеляў сацыялізму, таму актуальнасць творчасці правадыроў сусветнага пралетарыяту адпала. Густы чытачоў, несумненна, фарміруе час. Па словах Людмілы Міхайлаўны, у нашы дні смаргонцы зачытваюцца такімі папулярнымі аўтарамі, як Марыніна, Нязнанскі, Данцова, Шылава. Моднымі аўтарамі сталі Токарава і Петрушэўская. Дарэчы, у павазе сёння кнігі аб розных традыцыйных і нетрадыцыйных спосабах аздараўлення. А кагосьці і наогул цягне на філасофскую і дакументальную літаратуру.

Некалькі гадоў назад з мэтай пашырэння кніжнага фонду згодна з інтарэсамі чытачоў у бібліятэцы быў створаны камерцыйны фонд літаратуры. Найбольш запатрабаваныя кнігі сталі выдавацца чытачам за невялікую плату (сёння яна складае 170 рублёў за адну кнігу, узятую на адны суткі). Такім чынам бібліятэкары збіраюць грошы на пакупку новай літаратуры.

Чытачамі дзіцячай бібліятэкі з'яўляюцца дзеці ва ўзросце ад 6 да 15 гадоў. Як загадчык **Аляксей Бумай** расказаў, што сёння ў бібліятэцы налічваецца больш за 4000 юных чытачоў, для якіх прапанавана каля 28000 кніг і часопісаў. Чытацкія інтарэсы фарміруе як школьная праграма па літаратуры, так і кнігі, якія папулярныя сярод дзяцей усяго свету. Сярод любімых кніжных герояў першынство трымае вядомы ўсім Гары Потэр, не менш папулярныя кнігі Уолта Дыснея, а таксама расійскіх аўтараў сёстраў Варабей. У апошнія гады пасля доўгага перапынку пачалі выдавацца зноў знаёмыя яшчэ з савецкіх часоў часопісы "Веселые картинки" і "Мурзилка". Як гаворыць Аляксей Міхайлавіч, сёння дзяцей у бібліятэку прыводзяць бацькі, якія проста не ў стане купляць надта дарагія кнігі ў магазіне.

**Ірына ЛУГІНА.**

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# Быў майскі аўторак

**Аўторак, 11 мая, па дарэформенным календары 1908 года. На станцыі Маладзечна адбылася катастрофа, у якой загінуў машыніст па прозвішчы Суравец. Высакосны год, першы пасля адкрыцця ў Маладзечне камяніцы чыгуначнага вакзала, які і сёння з'яўляецца візітоўкай горада. Толькі на той час у Маладзечне, якое яшчэ было мястэчкам, жыло каля 3 тысяч чалавек, сёння – у трыццаць з лішкам разоў больш.**

Што адбылося ў той няшчасны дзень, сёння сказаць цяжка. Магчыма, у нейкіх архівах і захаваліся дакументы, па якіх можна расшыфраваць прычыну катастрофы, даведацца пра яе акалічнасці. Але пасля 1908 года Маладзечна перажыло 2 спусташальныя сусветныя вайны, рэвалюцыі, безліч пераходаў улады з рук у рукі. Сталіцай дзяржаў, у склад якой уваходзіў гэты чыгуначны вузел, былі Санкт–Пецярбург (Расія), Вільня (Сярэдняя Літва) Варшава (Другая Рэч Паспалітая), Масква (Савецкі Саюз), Мінск (Беларусь). Дзе шукаць канцы?



У катастрофе на чыгуначныай станцыі Маладзечна 11 мая 1908 года загінуў памочнік машыніста. Аб гэтым расказвае фатаграфія, якую зрабіў фатограф з Вілейкі В.Л.Кацэнбогін.

Фота з фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея.

На адвароце фотаздымка, які захоўваецца ў фондах Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне, стаіць пячатка: "Фотография В.Л.Каценбогина в Вилейке". Гэта таксама загадка. Чаму фатограф не мясцовы? Няхай сабе Маладзечна на той час мястэчка ўдвая–ўтрая меншае, чым суседні горад на Віліі. Але і тут, як у кожным на той час мястэчку, ужо можна было знайсці не аднаго фатографа. Ва ўсякім разе, такую фатаграфію некалі перадаў у музей Уладзімір Іванавіч Балейка, ветэран–чыгуначнік з Ваўкавыска.

11 мая па дарэформенным календары 1908 года не дачакаліся ў сям'і Сураўцоў мужчыну. Камусьці ён быў сынам, камусьці, магчыма, мужам і бацькам. І той далёкі боль данёс нам да гэтага часу подпіс на адвароце фатаграфіі са старога альбома.

**Мікола ГАЙДУК.**

■ КАЛЯНДАР

**16 красавіка. 95 гадоў з дня нараджэння Георгія Чарняўскага** (1909-1985), беларускага мастака-афарміцеля.

**16 красавіка. 80 гадоў з дня нараджэння (1924) Алега Луцэвіча**, беларускага жывапісца.

**16 красавіка. 50 гадоў з дня нараджэння (1954) Уладзіміра Лосева**, беларускага плакатыста, мастака праектавання.

**17 красавіка. 105 гадоў з дня нараджэння Лідзіі Ржэцкай** (1899-1977), беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі, народнай артысткі СССР.

**17 красавіка. 75 гадоў з дня нараджэння (1929) Івана Малчановіча**, беларускага майстра мастацкай керамікі.

**18 красавіка. 190 гадоў з дня нараджэння Яўстаха Тышкевіча** (1814, Лагойск - 1873), гісторыка, археолага, этнографа, краязнаўца, музеязнаўца, аднаго з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі, ганаровага члена Пецярбургскай і Стакгольмскай АН, Лонданскага археалагічнага інстытута.

**18 красавіка. 110 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Пуроўскага** (1894-1965), беларускага фалькларыста, спевака, лібрэтыста.

**20 красавіка. 90 гадоў з дня нараджэння Міхася Юдэлевіча** (1914-1941), беларускага пісьменніка, тэатральнага крытыка.

**20 красавіка. 60 гадоў з дня нараджэння (1944) Яўгена Лецкі**, беларускага пісьменніка, літаратуразнаўца, крытыка, перакладчыка.

**20 красавіка. 50 гадоў з дня нараджэння (1954) Антаніны Шчаслівай**, беларускай мастачкі.

■ ЗДАБЫТКІ НАШЫХ ЗЕМЛЯКОЎ

## Люстрадзён эпохі Багрыма

**Міхаіл Галубовіч (1800-1881) – малазнаны архіепіскап, які працаваў у Мінскай губерні. Захавалася ў аддзеле рукапісаў, рэдкіх кніг і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі сёмая частка яго дзённіка. Запісы датаваныя 1858-1860 гадамі.**

У "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" чытаем: "Міхаіл (у свеце Галубовіч; 1800, Літоўская губ. – 6(18).3.1881), уніяцкі, потым праваслаўны царкоўны дзеяч. Доктар багаслоўя і царкоўнага права. Скончыў Віленскую галоўную семінарыю. З 1828 – інспектар, выкладчык (да 1831) Літоўскай духоўнай семінарыі ў Жыровічах, потым саборны протаіерэй і віцэ-старшыня Літоўскай уніяцкай духоўнай кансісторыі, пасля смерці жонкі архімандрыт Быценскага кляштара базыльян. 12.2 1839 разам з іншым вышэйшым духавенствам падпісаў на Полацкім царкоўным саборы 1839 Саборны акт аб скасаванні Брэсцкай уніі 1596 і далучэнні уніяцкай царквы да праваслаўя. З 1839 епіскап пінскі (з 1840 наз. епіскап брэсцкі), з 1848 — епіскап, з 1853 – архіепіскап мінскі. З 1868 – па-за штатам. Апошнія гады правёў у Жыровіцкім Свята-Успенскім мужчынскім манастыры. Аўтар перакладу на польскую мову праваслаўнага катэхізісу, пашыранага сярод былых уніяцкіх святароў, якія не ведалі або дрэнна ведалі рускую мову (1841)".

Наш зямляк Язэп Янушкевіч падрыхтаваў і выдаў дзённікі Міхаіла Галубовіча асобнай кнігай – "Дыярыюш з XIX стагоддзя" (Мінск, выдавец В.Хурсік, 2003). Да тэкстаў папольску і па-беларуску даследчык дадаў каментарый, паказальнік імёнаў, геаграфічны паказальнік. Дзённіку папярэднічае грунтоўнае ўступнае слова. Адрас і дата напісання наступныя – Ракаў, 2002 год. З Вілейшчынай, Віленшчынай звязаны і многія адрасы запісаў з дзённіка Галубовіча. "...Выехаў з Менску ўчора пасля 10-й шасцёркай коней – у карэце, што ад Пуслоўскага з вашамі. У санках паехаў Смарацкі з Андрэем – на Падалянку, Радашкавічы, Краснае, Маладэчна, Пруды, Смаргонь, Нарбутоўшчызну, Ашмяны, Каменны Лог і Рукойні. У Смаргоні я начаваў. Калі выязджаў, стаяла адліга, снегу мала, цягнуўся як па шашы, але падчас начлегу, уначы, узяўся мароз, зямля ўмерзла, а за Ашмянамі дзве станцыі па дарозе навалiла снегу, немагчыма было ехаць, і месцамі ледзьве цягнуўся, нага за нагу, баючыся, каб не зламаць карэту..." – піша архіепіскап 12 лістапада 1860 года. Дарогі часта прыводзяць Галубовіча ў Маладзечна... "Начаваў у Маладэчне... У Красным аглядаў каменную царкву, вымураваную стараннямі Глушаноўскага".

Дзённік Галубовіча – гэта і сустрэчы з Мільчай — цэнтрам воласці ў Барысаўскім павеце (цяпер – Даўгінаўскі сельсавет у Вілейскім раёне), вёскай Ашмянскага павета Нарбутаўшчызнай, Палянамі (вёска ў Лебедзеўскім сельсавеце), Прудамі (таксама сучасны Лебедзеўскі сельсавет), Радашкавічамі, маёнткам Здзяхоўскіх у Ракаве... Чым не крыніца сведчанняў для гісторыка-краязнаўчых росшукаў на маладзечанскай, віленскай прасторы?!

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ УЗНАГАРОДЫ

## Ганаравалі ўкраінцы

**МІНСК. Беларускія гісторыкі, навуковыя супрацоўнікі Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Сяргей Тарасаў і Андрэй Кіштымаў ганараваныя дзяржаўнымі ўзнагародамі Украіны. Тарасаву прысвоена званне «Заслужанага работніка турызму Украіны», а Кіштымыў узнагароджаны ордэнам «Казацкай славы» III ступені.**

Як паведаміў БелаПАН С.Тарасаў, узнагароды прысвоены за ўдзел у трох міжнародных навукова-даследчых экспедыцыях, арганізаваных Міжгаліновай лабараторыяй гістарычных даследаванняў Нацыянальнай акадэміі навук Украіны.

Закрануўшы апошнюю экспедыцыю, навуковец расказаў, што ў чэрвені мінулага года на чоўне «Сварог», выробленым у Чарнігаве па ўзору старажытнага ветразева-веславога дракара, міжнародны экіпаж у складзе 17 чалавек прайшоў паўночным марскім адгалінаваннем «Вялікага шаўковага шляху» па маршруце Чарнігаў — Кіеў — Ржышчава — Марыупаль — Азоўскае мора — рака Дон — Цымлянскае вадасховішча — рэкі Калмыкіі і ў адваротны бок.

**Паводле БелаПАН.**

■ З ЛІСТА ЧЫТАЧА

## Дзякуй за адкрытасць

Паважаная рэдакцыя! Вялікі дзякуй за газету, за вашу працу над ёй. Глыбока кранаюць расповеды пра мінулае, пра гісторыю зямлі, на якой мы жывем, пра цяперашні нялёгкі дзень.

За адкрытасць, шчырасць, смеласць.

**Лілія МАГАЛА.**

■ У БЕЛАРУСІ

## Да юбілею Васіля Быкава

**ВІЦЕБСК. Васілю Быкаву 19 чэрвеня споўнілася б 80 гадоў. Віцебская абласная рада Таварыства беларускай мовы звярнулася да суайчыннікаў з абвесткай аб зборы сродкаў на ўшанаванне памяці Васіля Быкава.**

У ёй, у прыватнасці, гаворыцца: "19 чэрвеня 2004 года споўнілася б 80 гадоў сусветна вядомаму пісьменніку, сапраўднаму патрыёту роднага краю Васілю Быкаву.

На правядзенне юбілею народнага пісьменніка і ўвекавечванне яго памяці патрабуюцца значныя сродкі. Звяртаемся да ўсіх, каму дарагая памяць пра Васіля Быкава, зрабіць грашовыя ахвяраванні на рахунак №3015000017823, код 259 у Віцебскім філіяле ААБ "Беларусбанк".

**Аддзел інфармацыі.**



Васіль Быкаў. Нарадзіўся ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна на Віцебшчыне 19 чэрвеня 1924 года. Аўтар шматлікіх твораў аб людскіх лёсах. Асноўнай тэмай яго творчасці стала "акопная праўда" апошняй вайны. Памёр у 2003 годзе.

Фота ByMedia.Net

